Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя Вастра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 беззаботных за усю абвестку 2 рублі.

Адміністрацыя: Завальная № 7, «Белар. Кнігарня». ПАДПІСКА: на 1 месяц—10 руб., на 3 месяцы—25 руб.

Год І. Вільня, Серада, 23 ліпня 1919 г. № 52.



## 22 красавіка -22 ліпня.

* * *

... «Палажэньне безупыннай няволі, якую я, радзіўшыся ў гэтай нешчасьлівай зямлі, добра ведаю, павінно ўрэшце быць зьніштожэно і ўжо раз у гэтым якбы Богам забытым краю, павінна запанаваць свабода і право вольнай, нічым не звязанай гутаркі аб сваіх патрэбах»...

«Хачу вам даць магчымасць развязаць унутрэнныя, нацыянальныя і рэлігійныя справы гэтак, як самі таго захочаце без ніякага гвалту або націску ад стараны Польшчы»...

**Язэп Пілсудзкі.**

* * *

«На аснове апавешчэньня п. Камісара Віленскага Округа падаю да ведама ўсім тутэйшым рэдакцыям, што паводле загаду Глаўнакамандуючага Польскімі Войскамі да сягоняшняга дня для ўсіх тутэйшых газэт устанаўляецца ваенная цэнзура».

Кіраўнік Аддзелу Друкаў

**Л. Абрамовіч.**

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генэральнага Штабу.

*19 ліпня.*

**Літоўска-Беларускі фронт.**

Няпрыяцельскія атакі, меўшыя на мэце заняць Маладэчна і Вілейку ідуць без перарыву. Двукратная атака бальшавікоў, з большымі за нашы сілы, падтрыманая значнай артылерыяй, двумя браніраванымі паездамі і аэрапланам, была адбіта пасьля заўзятага бою. Адтуль, дзе няпрыяцелю, дзякуючы яго вялікшым войскам, удавалося часова уварвацца ён энэргічнай атакай нашай пехоты заразжа выкінут. Няпрыяцель не зьвяртаючы увагі на свае значныя страты сягоньня ізноў пачаў атакі, найбольш на паўдзень ад Радашкавіч, бітва ідзе далей. Друга няпрыяцельская група начала дужэйшымі за нашы сіламі агульную атаку на Вілейку з паўноч-усходняга боку. Каля Крывічы-Рэчкі ідуц бітвы.

**Палескі фронт.**

Атакі бальшавікоў на паўночны усход ад Лахвы, падтрыманыя артылерыяй і браніраванымі параходамі, былі адбіты. На Рэшце фронту дзеяльнасьць разведчыкаў з абедзвых старон. Апрача гэтаго без пераuен

**Галіцыйска - Валынскі фронт.**

Сягоняшні дзень прайшоў бяз баёвых стычак. За фронтам нашы аддзелы ачышчаюць тэрыторыю ад разьбітых часьцей бальшавікоў і украінцаў.

**Заняцьце Жмерынкі.**

БУКАРЭСТ. Атрадамі Петлюры занята Жмерынка.

**Наступленьне Дутава.**

БУКАРЭСТ. Наступленьне Дутава ў кірунку на Саратаў ідзе з посьпехам. Атрадамі Дутава ўжо занята часьць з. д. лініі Уральск-Ершоў. Бальшавікі заўзята супраціўляюцца бо ім канешна патрэбна мець час каб эвакуіраваць Астрахань.

**Усходняя еднаець.**

ПРАГА, 19 ліпня. „Ceskie Słowo" піша аб канешнай патрэбе стварыць „Усходною еднаець" у лік якоў уходзілі лібы: Польшча, Румынія, Паўднёвая славія, Чэха-Славакія і Вэнгрыя.

(П. А. Т.)

**Нацыянальная Рада ў Латвіі.**

ПАРЫЖ, 18 ліпня. З Копэнгагі пішуць, што Латышскае пасольства абвесьціла ноту, што ў Рызе адбылося першае пасяджэньне Нацыянальны Рады ў прысутнасьці прадстаўнікаў урадаў Францыі, Англіі, Злучаных Штатаў і Эстоніі, так сама былі паслы нацыянальных меньшасьцей польскай, жыдоўскай і немцаў. Старшыня міністраў Ульманіс абвесьціў адстаўку кабінэту, якая была прынята. Рада даручыла п. Ульманісу фармаваньне ураду нацыянальнай еднасьці.

(П. А. Т.).

# З газэт.

п. М. Нядзялковскі ў стацьці 20—21 ліпня (№ 252 „Robotnik") пішэ:

«Польская грамадзянская правіца з эндэцыей на чале падала братню далоню рэакцыйнай Расеі. У далёкім Парыжы п. Дмоўскі паддзержывае прыязные стасункі з колішнім царскім міністрам загранічных спраў п. Сазонавым, з лібэральна-буржуазыйным палітыкам Маклаковым, які афіцыальна вымагае для будучай рэакцыйнай Расеі Кіева, Фінляндыі, Менска, ды пават Вільні, Беластоку і Холму. У Пінску генерал Лістоўскі братаецца з расейскай афіцэрскай дружынай прыслухаючай Денікіну. Рэспубліка польская мае быць саюзніцай Калчака і расейскай контррэвалюцыі, мае прыймаць учасцьця ў суцэльным антыбальшавіцкім фронце».

# Беларусь.

## З ГОРАДНІ.

У Горадні выйшла адозва, падпісаная «Конфэрэнцыя ўсіх таварыств і арганізацый польскіх у Горадне» такога зместу:

«У нумэры 5 выдаванай ў Горадне беларускай часопісі «Родны Край» памешчэн быў рад стацьцей змерэных проці польскай дзержаўнасьці, удараючых у асяродак польска-беларускіх адносін. Стацьця, пасьвячоная Люблінскай Уніі, тоўпіць у сабе цэлы рад провокацыйных і фальшывых зменак, скіраваных да ўзняцьця ненавісці беларускага народу да палякоў і прадстаўляючых кольківековае спажыцьцё двох народаў, як рад зьдзекоў палякоў над беларускім народам.

Стацьця «Правам ці мечом» папросту заклікае беларускі народ да аружнага выступленьня проці польскіх ўласьцей і распачацьця паўстанскай партызанткі на тылах польскіх войск, якія сваей крывёй выволілі гэты край ад бальшавіцкага зьдзеку і сягоньня яго сваймі грудзымі абараняюць.

Польскае грамадзянство востра пратэстуе супроць гэтай правакатарскай ра работы і заклікае ўласьці, каб распачалэнэргічную судовую акцыю супроць группы агітатароў, якія дзеля сваіх асабістых мэт хочуць выклікаць крывавыя беспарадкі на тылах польскіх войск і сарваць перэгаворы грамадзянскіх беларускіх груп з польскім грамадзянствам і ўласямі, кірующыяся да развязаньня справы нацыянальнай і дзержаўскай згодна з агульным жаданьнем народу заселяючага край.

Польскае грамадзянство ня можа надзівіцца, што стацьці паявіліся ў часопісі выдаванай Цэнтральнай Беларускай Радай Гродзеншчыны, прадстаўнікі якой ў гэтым самым часе вялі перэгаворы з Урадам Польскім у Варшаве а справе урэгуляваньня нацыянальных адносін у нашым краю.

Польскае грамадзянство вымагае ад Цэнтральнай Белатускай Рады ўсестароннага выясьненьня гэтай справы і зазначэньня свайго становішча, каб ведаць, з кім мае справу і як мае лічыць кіраўнікоў нацыянальнага беларускага руху».

Ад Рэдакцыі. Нам пакуль-што невядомы дэталі апошніх здарэньнёў у Горадні. Конфіскаваный окупацыйнымі ўласцямі № 5 «Роднага Краю» да нас не ў Рэдакцыю ня трапіў. Аднак маем асновы думаць, што змест польскай адозвы мае лішне згушчэныя барвы.

**ДАНЮШАВА**, Віл. губ. Сьвенцянскага пав.

Жудасна глядзець на жыцьцё нашых людцаў, якія знаходзяцца цяпер на гэтай няшчаснай зямельцы. Прайшлі ўжо тыя часы, калі незналі паны бунтаў, жыдыгрунтаў, а нашы беларусы фунтаў. Угэты часы ліхалецьця і руіны ўсякай злыбяды даведаліся. А найболь пячэ і дапекая усякая апека над дзяцьмі і узрослымі. Найгорш даецца ў знакі і бьець па душы апека над дзяцьмі, якім за лыжку стравы трэба вызбывацца свайго і перавучывацца матчынай мовы. Гаспадаркі тут німа ніякой, усе раскідана, развалена, бо ні канягі, ні сошкі, ні плужыка, ні калескі —усё гэта раскрадзена то няпрыяцелямі, то прыяцелямі, а людзі мучацца ад голаду, як цені цягаюцца.

Цяпер нідаўна апавешчэна, каб хто мае казённае (разумеецца нямецкае) дабро, як: далато, секеру, пілу, дрот, сьвярдзіл і ўсё іншае такое, той павінен нясці ў двор да пану Еленскага і здаць пану камісару дворнаму дабра вольна, то ён ня скажэ аб гэтым нікому і будзе ўсё добра, а калі не прынясець хто, то скора усюды па вёсках будуць рабіць вобыскі і калі у каго што знойдуць, то той будзе разстрэляны, як кажэ п. Еленскі.

Цікава, а калі будуць шукаць таго дабра, якое пазабіралі ў нашых бедных селян, якое іх бацькі і дзеды дабываючы сыйшлі ў магілу.

Дзе іх кароўкі, конікі? Дзе ўся іх гаспадарка? Чаму ім у хату нічога не нясуць?

**Тутэйшы.**

# У ВІЛЬНІ.

**Беларуская дэлегацыя.**

Цэнтральная Беларуская Рада Віленшчыны і Гродзеншчыны выслала дэлегацыю ў Варшаву, якая будзе вясьці перэгаворы з польскім Урадам у справах вайсковых і палітычных.

БЕЛАРУСЫ! купляйце і пашырайце сваю газэту. Пішэце у сваю газэту.

*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць калуцца часу пахваліцца сваімі мястовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбах яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,—няхай ён будзе ласкаў не абмінуць сваю беларускую Рэдакцыю.*

**УСІХ, ХТО ШУКАЕ РАБОТНІКАЎ,** просім зварочавацца ў сэкцыю безработных Беларускага Нацыянальнага Камітэту м. Вільні (Вострабрамская 9), ад 10 да 3.

**БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАМІТЭТ**

паведамляе родных і знаёмых арэштаваных беларусаў аб арганізаваньні пры Камітэце (Вострабрамская, № 9) Камісіі дзеля падачы юрыдычнай помачы.

Камісія прыймае з 12 — 2 гадз. у дзень штодзенна, а ў панядзелкі і сьвяты з 1—2 г. дня.

**Беларускі Нацыянальны Камітэт**

**просіць зарэгістраваных БЕЗРАБОТНЫХ**

1) Таубэ Аляксандэр, Зарэчная № 3, кв. 16,
2) Капцюг Дар'я, Манастырская № 8, кв. 4,
3) Клікевіч Ядвіга, Новае Страеніе, Больнічная вул. (Покой) № 38,

**зараз-жа прыйсьці ў Камітэт.**

**ПАТРЭБНЫ**

Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту

**канторшчыкі і канторшчыцы,**

добра знаючыя беларускую мову.

З'яўляцца па адресу:

**Вострабрамска № 9, канцэлярыя Камітэта, покой № 5.**

**БЕЛАРУСЫ!**

Усіх, хто мае лішнія беларускія, альбо іншыя кніжкі, просім ахвяраваць іх Беларускай Ваеннай Арганизацыі дзеля стварэньня вайсковай бібліатэкі. Кнігі прыймаюць у Рэдакцыі „Беларуская Думка", — *Вострабрамская 9,* —

Рэдактар і выдавец Э. Падгайскі. — Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23